Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 57 (108). Вільня, Субота 23 Ліпня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.

Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска: на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал. Для заграніцы удвая даражэй.

Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## За сьвятую справу.

Знаходзімся на пярэдадні канфэрэнцыі запрошаных сяброў Беларускага Сялянскага Саюзу. Гэты факт, у цяперашнім палітычным становішчы, мае асаблівае значэньне, бо ў апошнія часы мы былі сьведкамі важных падзеяў, як у міжнароднай палітыцы, так і ў палітыцы адносна беларускага адраджэнскага руху з аднаго і з другога боку граніцы. Сяляне, сапраўдныя сыны вёскі, што прыяжджаюць на канфэрэнцыю з рожных куткоў Заходняе Беларусі, выявяць настроі вёскі, яе крыўды і спосабы барацьбы за гвалчаныя правы грамадзян Беларусаў. Учасьнікі канфэрэнцыі скажуць, на сколькі беларуская вёска разьбіраецца ўжо ў беларускім руху і наскольні яна пазнала падшыванцаў пад беларускі рух, якія, працуючы за юдашовыя сярэбраньнікі, імкнуцца патапіць гэты рух, або ў моры сваей сялянскай крыві, або ў вечнай запраданай няволі ў чужынцаў.

Сябры канфэрэнцыі скажуць таксама, хто ідзе з сялянствам і хто выбраў сапраўдны шлях, адраджэнскага беларускага руху і, такім чынам, здолее вазваліць беларускае сялянства з галіты, бязупыннага зьдзеку, эксплёатацыі і ўсяго таго гора, якое ўсьцяж праследуе наш Народ.

Гэтае гора ахапіла нашае сялянства з усіх бакоў. Няма такое галіны грамадзкага жыцьця, дзе-б мы былі панамі палажэньня. Наадварот, усюды беларускае сялянства зьяўляецца ня толькі апошнім, але зусім ня прынятым. Палітычных правоў мы ня маем; мець школы ў роднае мове забараняюць; сялянства ня толькі не дачакалася зямлі ад зямельнае рэформы, але прычакалася асадніцтва і калянізацыі, якое яшчэ больш паглыбіла зямельны голад на вёсцы; сялянства прычакалася ліквідацыі сэрвітутаў, на шкоду вёскі і карысьць абшарніцкіх двароў; замест загварантаваных на'т канстытуцыяй самаўрадаў, маем дыктатуру войтаў, бурмістраў і старастаў.

Апошнія выбары ў самаўрады зьяўляюцца толькі пробай сіл, рэальнай карысьці для сялянства, за малымі выняткамі, можна не спадзявацца ад цяперашніх самаўрадаў; гаспадарчае палажэньне вёскі, у дадатак зьнішчанай вайной і неадбудаванай, так цяжкое, што вёска амаль што душыцца з голаду, бо няма ніякага варштату працы ані на зямлі ані ў іншых памочных заработках. Затое падаткі, дык не абмінаюць вёскі: як дзяржава так і „самаўрады“ засыпаюць сялян рожнымі платнічымі наказамі, а калі яшчэ далічыць да гэтага штрафы па пратаколах паліцыі, якія асабліва былі ў модзе пазалетась, дык усяго разам зьбіраецца столькі грошы, што селяніну з ліцытацыі прадаюць апошні інвэнтар, вопратку ды іншае.

Абшарнікі, як суседзі сялян, чуючы за сабой польскае права, усьцяж агалачваюць вёску, то праз пашу, то праз лес, то праз сэрвітут, самапраўствам выкідаюць сялян з сэрвітутаў і змушаюць іх ісьці ў суд, дзе, ёсьць ведама, пан найчасьцей выйгрывае, бо ў Польшчы польскае права.

Гэткі стан рэчаў змушае неаднаго дзейнага селяніна процістаўляцца яму і дамагацца сваіх правоў. Але сьледам за гэтым ідуць арышты, судовыя працэсы і адседжваньне цяжкага вастрогу.

На той бок граніцы сяляне, таксама, не гаспадарамі палажэньня. Ня маем магчымасьці дакладна апісаць долю сялянства пад Радамі, аднак весткі, якія надыходзяць адтуль, ясна гавораць, што Саветы душаць сялянства вялізарнымі падаткамі і запаўняюць вастрогі тымі, хто хоча процістаўіцца пануючай уладзе.

Вось, пры такіх жудасных абставінах зьбіраецца канфэрэнцыя Беларускага Сялянскага Саюзу. Гэтая канфэрэнцыя ня мае такой сілы, каб магла зьмяніць няволю на запраўднае жыцьцё, але гэтая канфэрэнцыя мае сілу, каб выказаць свой голас і за гэтым голасам пацягнуць гушчы беларускага сярмяжнага народу.

Воля гэтага народу, выкрысталізаваная ў імкненьнях Сялянскага Саюзу, набярэ моцы толькі тады, калі ўсё сялянства пойдзе за голасам сялянскай канфэрэнцыі і створыць адзіную магутную арганізаваную грамаду—Беларускі Сялянскі Саюз.

Вось ў гэтым выяўляецца значэньне канфэрэнцыі.

Учасьнікі канфэрэнцыі! Беларускае сялянства чакае ад Вас слова, чакае ад Вас клічу да арганізаванай плянавай працы. Вы, сыны вёскі, кахаючыя гэтую вёску, павінны аддаць усе свае сілы на тое, каб вызваліць яе з няволі.

Дык прыступайце з абноўленай энэргіяй і ахвотай да працы за сьвятую справу, за справу Беларускага Народу!

## Аб венскіх крывавых падзеях.

Тая крывавая трагэдыя, якая здарылася ў Вене, у сталіцы маленькае цяпер Аўстрыі, вельмі выдатна гавора аб аднэй цікавай рэчы, а іменна: аб банкруцтве аўстрыйскіх соцыял-дэмакратаў: аб поўным іх банкруцтве, як ідэйна так і тактычна. Мы ўжо пісалі што гэта яны, паднялі паўстаньне і пасьля таго, як работніцкія масы запраўды ўзяліся, каб сваею сілаю, сваімі ўласнымі рукамі направіць крыўды, дык сацыял-демакраты замест таго, каб як гэта трэ' было-б, стаць на чале работніцкага руху, адступілі, спужаліся і ўзяліся тушыць, імі жа запаляны рэвалюцыйны пажар. Гэта-ж правакацыя!...

Памогшы Зэйпелю прадстаўніку буржуазіі і клеру, здушыць работнікаў, яны сацыял-демакраты дасталі ад таго-ж Зэпеля (старшыні аўстрыйскага ўраду) здаравенную пстрычку і з пераду і ззаду.

Выпусьціўшы лейцы з рук сацыял-дэмакраты, хацелі кіраваць дзяржаўным аўстрыйскім канём, але годзе, ужо позна... Зэйпель нятолькі што не ўступіў, але-ж нават не нашоў патрэбным прыняць сацыял-демакратаў у лічбу ўрадавай кааліцыі.

Да 200 забітых і 700 раненых, цыфры неаканчальныя, магчыма, што многа болей прапала людзей на венскіх вуліцах і безрэзультатна, безкарыстна для работнікаў дзякуючы нетактычнасьці кіраўнікоў гэтага руху сацыял-демакратаў. А ім і толькі ім падпарадкаваны работніцкія масы. Сацыял-дэмакраты маюць большасьць у венскай Радзе.

Пасля таго, калі ўраду удалося здушыць работнікаў, дык распачаліся шматлічбовыя арышты сярод выдатнейшых работнікаў.

У Вене парадак устанаўліваецца, але-ж той парадак, які быў да падзеяў. Работніцкая кроў прапала... на марна. Буржуазны сьвет трыумфуе, але-ж ці надоўга?!...

## Пераварот у Польшчы.

У Польшчы гэтымі днямі таксама здарыўся пераварот. Праўда абходзіцца ўсё гэта без праліцьця крыві, але-ж ня менеі трагічна чым у Вене.

Летась, калі маршалак Пілсудскі ўва імя направы жыцьця і ладу ў Польшчы, падняў аружнае паўстаньне, калі разлілася жаўнерская кроў на вуліцах Варшавы, дык польскія сацыялісты і „вызваленцы“ былі на старане марш. Пілсудскага. Яны думалі, што марш. Пілсудскі пры іх дапамозе захапіўшы ўладу падзеліцца з імі ляўрамі і дзяржаўным пірагом, але-ж памыліліся... І вось, нездаваленьне прымусіла іх стаць у апазыцыю (знача проці) сучаснага ўраду ў Польшчы, знача проці таго ўраду, які самі стварылі.

Гэта і ёсьць пераварот. Бо выглядае справа запраўды гэтак і таксама з трагічнымі пэрспэктывамі ў будучыні, як і венскія падзеі.

Як паказалі самаўрадавыя выбары, дык польскія сацыялісты іграюць першую іскрыпку ў работніцкім руху ў Польшчы, знача пры ўмелым тактычным кіраваньні работніцкі рух ідучы ў апазыцыі да ўраду тварыў-бы значную сілу і ўплывы на дзяржаўнае жыцьцё. Але-ж здаецца, што і польскія сацыялісты таксама як і іх венскія калегі, зьяўляюцца здольнымі толькі на правакацыю.

Гэта адно, а вось і другое. Факт адходу ад марш. Пілсудскага і сацыялістаў і „вызваленьня“ гавора, што ўрад пашоў ня тэю дарогаю, якую вызначалі гэтыя партыі, як значныя ўдзельнікі „маёвае санацыі“. Якая-ж ёсьць другая дарога для ўраду?—А вось якая! Калі ня мець апоры на лявіцы, дык трэба хіліцца да правіцы... Гэтак і робіць сучасны ўрад. Але-ж на правіцы тыя з кім летась ваявалі?

Вось гэта дык і ёсьць факт—пёраваноту ў Польшчы. У гэтым і ўся камэдыя і пачатак трагэдыі!..

# ТЭАТР І ЯГО ЗНАЧЭНЬНЕ.

Сярод гэтых некалькіх словаў мы зьмяшчаем фатаграфічны снімак артыстаў „Беларускага Народнага Тэатру“, заснаванага і кіраванага Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры. Мы зьмяшчаем воблікі некалькіх аматараў—артыстаў, якія панясьлі роднае беларускае слова на правінцыю туды, дзе брат гаруе, панясьлі роднае беларускае слова развагі і пацехі ў родныя беларускія масы. І за гэта ім чэсьць і пашана, якую яны ўжо і атрымалі ад тых мас з якіх вышлі і да якіх прышлі.

Тая пашана, якую выказала наша вёска да маладога „Беларускага Народнага Тэатру“ і тое цёплае прывітаньне, якім усюды яго спатыкаюць выразна і яскрава, сьведчыць, што тэатр мае вялікае значэньне ў жыцьці народу. Не дарам на шпальтах іншых газэтаў гэтак многа ўдзеляецца ўвагі і месца тэатральным справам і пастаноўкам!... На жаль беларускія газэты, беларускія культурныя інстытуцыі, якіх ёсьць многа, не зразумелі, ці мо' не хочуць, а можа ім ня трэба зразумець, што тэатр гэта і ёсьць частка культуры, яе рассаднік і ўзгадавацель яе ідэяў. Асаблівую павагу і асаблівае значэньне мае беларускі тэатр у нашых варунках, калі мы нацыянальна адраджаемся, калі мы нацыянальна ўсьведамляемся і імкнемся да нацыянальнага і сацыяльнага вызваленьня з пад чужацкага панаваньня і вызыску.

І вось, каму дарага гэта і зразумела, хто аддае сабе справаздачу з усяе сытуацыі, той і ўясьніць сабе гэта. Што-ж такое тэатр? Тэатр гэта тое месца, дзе здольныя і ўталентаваныя людзі выяўляюць жыцьцё гэтак, як яно пабудавана, дзе выяўляюцца добрыя і благія староны чалавечага жыцьця; яго цынізм і гніласьць; яго моц і прыгожасьць; яго вартасьці і нястачы; яго трафныя рыскі і шляхі і промахі. Тэатр гэта тое месца, дзе ўздымаецца высока ўсё прыгожае і сьвятое дзеля таго, каб крытычна і забойча палахнуць да сьмяротнасьці на непрыстойнасьці і пагрэшнасьці чалавечага жыцьця. Вось як разумеем, як трактуем мы тэатр!



Беларускі Народны Тэатр.

Акрамя гэтага мы лічым, што тэатр гэта школа, якая вучыць любіць і шанаваць добрае і змагацца з благотным і ліхім.

Дык вось знача, маючы гэтакае разуменьне аб тэатры мы лічым, што „Беларускі Народны Тэатр“, як рассаднік беларускае нацыянальнае культуры, значна адыгрывае сваю ролю. Ён падмацуе ў беларускім народзе надзею на тое, што яго ідэя не загіне, што яна жыве і пашыраецца, што яна становіцца рэальнаю і што час яе зьдзейсьненьня наблiжаецца.

„Беларускі Народны Тэатр“ арганізаваны Беларускім Інстытутам, які ня мае падтрыманьня ад нікога апрача свайго беларускага грамадзянства, як арганізацыя, якая мае на мэце пашыраць беларускую культуру сваімі ўласнымі сіламі і сродкамі, даказа Беларускаму Народу, што мы, калі ў нас будзе на гэта жаданьне, можам парадкаваць сваё жыцьцё без дапамогі, як усходняга так і заходняга апякуна, як чырвонае Масквы, так і бела-малінавае Варшавы.

„Беларускі Народны Тэатр“ ужо паказаў гэта, паказаў што той хто стварыў і пусьціў яго ў масы; адраджэньне Беларускага Народу, як гэтакага, ставіць вышэй палітычнае дэмагогіі, як гэта робяць іншыя інстытуцыі пад культурным капялюшыкам. І яшчэ, „Б. Н. Т.“ паказаў, што беларускія масы адчулі і зразумелі яго мэты і дзеля гэтага прыхіліліся да „Б. Н. Т.“ Бо-ж былі мы сьведкамі, калі тэатральныя пробы паўлюкевічаўскае „Прасьветы“ пад кіраўніцтвам мастака-артыста Фр. Аляхновіча „урачыста“ праваліліся, а чаму? Ды й толькі таму, што, Паўлюкевіч паслаў тэатр на тое, каб тварыць палянафільскую палітыку.

Мы рады пасьпеху маладога „Беларускага Народнага Тэатру“. Яго істнаваньне залежала і залежыць ад спагаду Беларускага Народу, бо крэдыту ён ня мае, адзіны крэдыт на істнаваньне „Б. Н. Т.“, гэта—прыхільнасць да яго народных масаў.

Няхай жыве „Беларускі Народны Тэатр“ —Сьветар нацыянальнай культуры!

# З жыцьця Польшчы.

### Самаўрадавыя выбары ў Польшчы.

На выбарах у валасныя самаўрады ў карэнной Польшчы бяруць перавагу або правіца (эндэкі-хадэкі-пяст) або „Вызваленьне“. Радыкальныя групы; камуністы ды іх спагадчыкі ніякіх уплываў на сялянства, як відаць з выбараў, ня маюць, бо іх кандыдаты пасьпеху ня мелі. А гэта сьведчыць што, шавінізм польскі моцна шануецца польскімі народнымі масамі: інтэрнацыянальная думка пабіваецца нацыяналізмам, які вострыць зубы на няпольскія народнасьці ў Польшчы.

### П. міністар Рамоцкі і дэлегацыя.

Пан міністар Рамоцкі пасьля таго здарэньня, якое спаткала яго і дэлегата чугуначнікаў, пасла Курыловіча, выдаў камунікат, у якім тлумачыць, што выгнаў ён пасла Курыловіча са свайго кабінэту дзеля таго, што пасол Курыловіч вельмі станоўка дамагаўся направы жыцьця чугуначнікаў, ды што вельмі проста (за панебраце) трымаўся ў гутарцы з п. міністрам. У гэтай прастаце работніцкай дэлегацыі п. міністар дагледзеў непашану, абразу ўраду, а каб захаваць гонар свой і павагу таго ўраду, які ён рэпрэзэнтуе, дык даў зразумець паслу Курыловічу, што аўдыенцыя кончана...

### П. П. С. у апазыцыі.

Польская Партыя Сацыялістаў, лічачы сябе адзінаю прадстаўніцаю польскай дэмакратыі, у сваім партыйным органе „Работнік“ піша: „Распачынаецца барацьба паміж дэмакратыяй у краі і ўрадам“, бо „Трыццацімільённаю дзяржаваю непадобна правіць з вышыні патаемнасьці за пасярэдніцтвам афіцэраў. Край мае гэтага даволі! Работніцкая кляса таксама!“

Гэтыя прызнаньні польскіх сацыялістаў нас цікавяць тым, што і мы ўжо ведаем, што Польшчаю правяць „з вышыні патаемнасьці за пасярэдніцтвам афіцэраў“, дык і для нас гэтага, што ведаем таксама даволі!

# СЭРВІТУТЫ.

Дзеля таго, што шмат хто зьвяртаецца да нас з запытаньнямі аб справах сэрвітутаў і дзеля таго, што распараджэньне аб ліквідацыі сэрвітутаў абшырнае, дык нязручна кожнаму, хто пытаецца даць падрабязны адказ, мы рашылі зьмесьціць закон аб ліквідацыі сэрвітутаў у газэце, каб гэтакім парадкам кожны, хто пажадае, мог з яго карыстаць.

Магчыма, што на практыцы шмат хто не зразумее гэтага закону, як належыцца, дык ў выпадку гэтага пажадана, каб зацікаўленыя зьвярталіся да нас. На ўсякае запытаньне аб практычным правядзеньні закону ахвотна адкажам і дамо параду.

### Распараджэньне

**Прэзыдэнта з дня 1 лютага 1927 году аб ліквідацыі сэрвітутаў (Dziennik Ustaw 1927 r. Nr. 10).**

*Арт. 1.* Сэрвітутнае права ліквідуецца на падставе дагавору, ці прымусова (п. 1).

Распараджэньне мае на мэце падзел вынагражденьня (сплаты, *Рэд.*) за ліквідаваныя сэрвітуты, падзел выганаў, супольнае лясавое сенажаці і пасьвішчаў, а таксама замену грунтаў (п. 2).

### АДДЗЕЛ I.

### Агульныя пастановы.

*Арт. 2.* Доказам істнаваньня праў, якасьці і абшару сэрвітуту зьяўляюцца сэрвітутныя акты ці іншыя ўрадавыя дакуманты.

### Староны.

*Арт. 3.* Прадстаўнікамі асобаў, якія карыстацюца з сэрвітутных праў лічацца ўласьнікі ці праўныя заступнікі, якія незалежна і на ўласны рахунак вядуць гаспадарку; калі няма ўласьніка ці праўнага заступніка, дык прадстаўніком лічыцца той, хто карыстаецца сэрвітутам, а калі гаспадарка не падзелена, дык адзін з супольнікаў, выбраны імі, або старэйшы векам.

Прадстаўніком валаснное ці грамадзкае ўласнасьці зьяўляецца войт ці солтыс (вясковы стараста, *Рэд.*).

*Арт. 4.* Асобы, якія маюць права на сэрвітут, выступаюць асабіста толькі тагды, калі іх ёсьць ня больш трох; у праціўным разе мусяць яны выбраць з пасярод сябе ня больш трох паўнамоцнікаў (п. 1).

Паўнамоцнікі выбіраюцца на агульных сходках заінтэрасаваных асобаў, пры гэтым кожны сябра сходкі мае столькі галасоў, колькі гаспадарак ён рэпрэзэнтуе (прадстаўляе) (п. 2).

Сходку склікае і на ёй старшынствуе войт ці солтыс, або зямельны камісар ці яго заступнік (п. 3).

Сходка лічыцца важнаю, калі зьбярэцца што-найменей палавіна ўласьнікаў заінтэрасаваных гаспадарак (п. 4).

Пастановы прынімаюцца звычайнаю большасьцю галасоў (п. 5).

Кожны прадстаўнік гаспадаркі, зямельны камісар ці яго заступнік мае права на словах ці на пісьме зажадаці ад солтыса склiканьня агульнае сходкі; калі гэтакае жаданьне паступіла з боку прадстаўніка гаспадаркі, дык солтыс мусіць склікаць сходку ў працягу 3 дзён; калі-ж яно выходзіць ад камісара, дык гэтакі сам вызначае дзень сходкі (п. 6).

*Арт. 5.* Прадстаўніком маёнтку, абцяжанага сэрвітутам, зьяўляецца ўласьнік маёнтку або яго паўнамоцнік (п. 1).

Калі ёсьць некалькі супольнікаў маёнтку, дык яны выбіраюць паўнамоцніка, калі-ж гэтакага ня выберуць, дык паўнамоцнікам лічыцца старэйшы з іх векам (п. 2).

Паўнамоцтвы выдаюцца ў форме натарыяльнага акту; дапускаецца таксама прыватны акт з падпісамі, засьведчанымі натарусам, зямельным камісарам ці воласьцю (п. 3).

Калі выступаюць уласьнікі некалькіх маёнткаў, дык яны на агульнай сходцы выбіраюць звычайнаю большасьцю галасоў ня больш трох паўнамоцнікаў (п. 4).

*Арт. 6.* Калі сэрвітутам заінтэрасаваны Скарб Дзяржавы (казна), дык прадстаўнікам зьяўляецца ўлада (п. 1), якой даецца права збываньня нярухомага, дзяржаўнага, маёнтку вартасьці да 100 тысяч злотых (п. 2).

*Арт. 7.* Асобы, якія лічаць сябе пакрыўджанымі пастановамі, прынятымі на сходках уласьнікаў маёнткаў ці асобаў, якія карыстаюць з сэрвітутаў, маюць права ў працягу 7 дзён ад моманту пастановы ўнясьці жалабу да Акруговае Зямельнае Камісіі цераз Павятовы Зямельны Урад; пастанова Акруговае Зямельнае Камісіі зьяўляецца аканчальнаю.

*Арт. 8.* Калі заінтэрасаваная асоба не дакажа, што асобы, якіх права ўяўлена ў аддзелах 3 і 4 гіпатэчнага выказу ці ў вячыстым рэестры, падходзяць пад праект выдзяленьня грунтаў, дык Акруговы Зямельны Урад мусіць паведаміць аб гэтым заінтэрасаваную асобу цераз абвестку ў „Польскім Маніторы“, (гэта такая выходзіць часопісь, *Рэд.*), а акрамя тае абвесткі, калі вядомы адрэс асобы, дык і даручыці ёй паведамленьне.

### Даручэньні.

*Арт. 9.* Усе паведамленьні, вызваньня і даручаныя копіі пастановаў павінна даставляцца заінтэрасаваным асобам, або іх прадстаўніком ці паўнамоцнікам цераз воласць пад распіску (п. 1).

Калі няма магчымасьці асабіста даруцыць копіяў, дык трэба вывесіці ў воласьці экзэмпляр доказу даручэньня (п. 2).

Тэрмін складаньня жалабы лічыцца ад наступнага дня пасьля даручэньня (п. 3).

### Часткавая ліквідацыя сэрвітуту.

*Арт. 10.* Пры ліквідацыі сэрвітутаў ня ўсіх асобаў, а толькі нейкае часткі, зямельны камісар можа згадзіцца на аддачу абшарнікам на рахунак вынагараджэньня за сэрвітутнае права тых асобаў пэўнае часткі абцяжанага сэрвітутам маёнтку толькі тагды, калі ён пераканаецца, што гэтая аддача не адаб'ецца на сэрвітутных правох рэшты асобаў.

*Арт. 11.* Калі сэрвітут абцяжваў некалі ўвесь маёнтак, а потым той маёнтак быў па

